У нумары: **Сусед суседу воўкам** | **Вершы Віктара Шведа** | **Навагодняя гутарка**

# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 1 (462) | ГОД X | 3 студзеня 1965 г. | ЦАНА 60 гр.

## Са шчасцем, чытачы!

**Адрывалі ўжо мы апошнія лісткі календара. Запоўніліся ўжо апошнія старонкі летапісу 1964 года. У мінулае адышоў стары год. Мы правялі яго як добрага сябра, што ўзбагаціў нашае жыццё вялікімі гістарычнымі падзеямі, запоўніў плённай стваральнай працай, дапамог зрабіць велізарны крок уперад да пабудовы сацыялізма ў нашай краіне.**

**І калі мы аглядаемся на пройдзены шлях — сэрца радуецца, што яшчэ больш расквітнела наша краіна, што нам лепш жывецца, што ўсё больш і больш трактараў на палях, матацыклаў і легкавых машын на дарогах, радыёпрыёмнікаў і тэлевізараў у хатах, што 1964 год прынёс шмат дасягненняў і прадпрысмствам, і ўстановам, і ўсім арганізацыям аб'яднаным у Фронце нацыянальнага адзінства, а гэта значыць і нашай беларускай арганізацыі. Менавіта таму мы добрым словам успамінаем стары год, менавіта таму мы разам з табою, дарагі чытач, пажымалі моцную працоўную руку году 1964 і з добрай усмешкай выходзілі насустрач Новаму году.**

**А што прынясе нам 1965 год? Праўда, дакладна цяжка на гэта пытанне адказаць. Залежыць гэта, між іншым, ад кожнага працоўнага чалавека, ад яго працавітасці і жадання выканаць тыя грандыёзныя заданні, што накрэсліў нам IV З'езд ПАРП. Мы ўпэўнены, што 1965 год прынясе нам новыя поспехі ў развіцці народнай гаспадаркі, у павышэнні дабрабыту. Мы ўпэўнены, што новы год прынясе далейшыя дасягненні кожнай арганізацыі, у тым ліку і нашаму Беларускаму грамадска-культурнаму таварыству.**

**Але мы хочам, каб быць упэўненым у тым, што нейкія цёмныя сілы не перашкодзяць нашаму цвёрдаму і ўпэўненаму кроку наперад. Вось чаму ў навагоднюю ноч мы ўзнімалі чаркі за мір ва ўсім свеце, за спакойны сон дзяцей: белых, чорных і жоўтых, за шчасце маці ўсяго свету, за шчасце сумленных людзей на зямлі.**

**Яшчэ раз віншуем Вас, чытачы, з Новым годам. Жадаем, каб быў ён для ўсіх нас шчаслівым годам, годам яшчэ лепшым ад мінулага.**

**М. ХМЯЛЕЎСКІ**
**Старшыня ГП БГКТ**

## ШТО ПЛАНУЕЦЕ НОВАГА Ў НОВЫМ ГОДЗЕ?



На гэтае пытанне адказалі нам:

**СТАНІСЛАЎ КРУШНЕЎСКІ — старшыня Ваяводскага Праўлення ЗМВ:**

— Надыходзячы, 1965 год, аб'яўляем, як — «Год хімізацыі сельскай гаспадаркі». Лік існуючых брыгад аховы раслін павялічыцца да 600. Будуць яны карыстацца апаратураю сельскагаспадарчых гурткоў, спулдзельняў і інш. Хлопцы і дзяўчаты згуртаваныя ў брыгадах правядуць апырскванне і апыльванне хімічнымі сродкамі на палетках сваіх бацькоў, суседзяў.

Трэба ведаць, што пустазелле наносіць страты нашай сельскай гаспадарцы ў Польшчы на суму звыш аднаго мільярда злотых.

Затым, правядзем т. зв. «акцыю мільёна». Значыць, у размерах аднаго мільёна злотых вырасцім тры гатункі важных сельскагаспадарчых раслін, а менавіта: кармавы лубін, люцэрна і капуста. Іх вырошчваннем зоймецца 800 гурткоў маладых гаспадароў, якія будуць утвораны з выпускнікоў СПР-аў. Гэта будзе іх першы рэальны занятак.

Бярэм на свой варштат развіццё ўслуг у вёсках — краўцоўства, будаўніцтва, рамонты, рамяство. У студзені арганізуем супольна з рэсартам спулдзельніцтва нараду прысвечаную гэтаму пытанню. Услугі — гэта найбольш танная, але як жа патрэбная інвестыцыя, якая дае непасрэдныя рэзультаты. Дзякуючы таму многім хлопцам і дзяўчатам створым магчымасці заробку і самастойнага жыцця ў месцы свайго пражывання.

Намерваемся таксама аказаць сур'ёзную помач аматарскім гурткам арганізоўваючы павятовыя аматарскія сцэны.

**(Працяг на стар. 5)**

## НАША ШКОЛА



**Беларускі ліцэй у Бельску мае 15 год. Гэтаму юбілею школы, яе Людзям прысвячаем наш навагодні фотарэпартаж.**

**ЯРАСЛАЎ КАСТЫЦЭВІЧ — дырэктар ліцэя ад першых яго дзён у 1949 годзе праз усе 15 год да сёння.** Узгадаваў гэтае сваё дзіця. Расло на яго вачах, кіруемае яго рукой. Ганарыцца ім, ганарыцца настаўніцкім калектывам, сваімі выхаванкамі.

«Пачыналі мы ад 43 вучняў і некалькі настаўнікаў. Цяпер маем 650 вучняў. Ліцэй пакінула 492 асобы з атэстатам сталасці. Пайшлі ў свет шырокі, многія, вельмі многія вучыліся, вучацца далей, многія вяртаюцца ў родныя стораны. Памятаюць пра школу. Наведваюць часта, пры кожнай нагодзе. Я вельмі цешуся, што сімпатыя даўнейшай школы суправаджае нашых былых выхаванкаў, што памятаюць. Настаўніку гэта найбольшая ўзнагарода. Мы цяпер вучымся ў новай, прасторнай, сучаснай школе і гэта таксама вялікі здабытак беларускага школьніцтва ў Дваццацігоддзі. Школа мае ўсе патрэбныя навуковыя кабінеты і прылады, высокакваліфікаваных выкладчыкаў. Кажаце, што рэпартаж робіце ў навагодні нумар, дык па дазволу — многа шчасця і радасці ў Новым годзе выкладчыкам нашай школы, былым і цяперашнім вучням».

**МІКАЛАЙ КРАСОЎСКІ — выпускнік ліцэя, цяпер магістр матэматыкі і настаўнік яе ў сваёй даўнейшай школе.** «У нас, былых выхаванкаў школы, захаваўся асаблівы сентымент да школы. Я ўвесь час, калі быў далёка, утрымліваў кантакт з ёю. Сюды заходзіцца, як свой да сваіх».

Чаму вярнуліся? Свет жа шырокі.

— Бліжэй дому, сваіх.

І пестрыцца школьная дошка квадратнымі ўраўненнямі, з многімі невядомымі, лагарыфмамі. Матэматыка — побач з фізікай — навука будучыні. Незразумелымі для вясковых бельскіх бацькоў закрутасамі асаджае і рассвятляе розум іх дзяцей — будучых інжынераў — будаўнікоў, будучых архітэктараў — праектантаў. Малады настаўнік вядзе ўрокі тэхнічнага рысунку — прадмет, якога не было раней у школе. А па небе, ці пад небам, ці над небам (як каму выгадней) лётаюць спадарожнікі. Астраномія, якую выкладае Мікалай Красоўскі, перастала быць далёкай. Усё сплятаецца.

**(Працяг на стар. 4)**





 

# СВЕТ 1965 ГОДА

Плошча — 135 мільёнаў кв. км. Насельніцтва — 3 400 млн. чалавек, г. зн. каля 25 чалавек на 1 кв. км. Гэта зусім не многа, калі памятаць, што ў Польшчы, якая не лічыцца густа заселенай, на 1 кв. км. прыпадае 100 чалавек. Аднак дэмаграфічны «выбух» непакоіць вучоных і палітыкаў. За час мірнага дваццацігоддзя 1920—1939 г. колькасць насельніцтва ўзрасла на 438 млн. чалавек. А за наступнае дваццацігоддзе, нягледзячы на пяць гадоў знішчальнай вайны, насельніцтва зямнога шара павялічылася на 1 700 млн. чалавек, а сёння амаль падвоілася ў параўнанні да 1918 года. Так павярхоўна выглядае справа каласальнага натуральнага прыросту, які вучоныя назвалі дэмаграфічным выбухам. Асноўная крыніца дэмаграфічнага выбуху — дасягненні навукі, а асабліва медыцыны, якая паспяхова змяншае смяротнасць людзей.

Няшчасце заключаецца ў тым, што медыцына дайшла да глыбінь паўднёваамерыканскіх джунгляў, афрыканскай саваны, да дробных астраўкоў Акіяніі хутчэй, чым асвета, і ў першую чаргу хутчэй, чым грамадскі прагрэс і гаспадарчае развіццё гэтых раёнаў. Вядома, вінаваты тут не хуткі прагрэс медыцыны, а каланіяльныя імперыялістычныя сілы, якія не дазволілі гэтым краінам уступіць на шлях самастойнага развіцця. На гэтых сілах ляжыць гістарычная адказнасць за тое, што дзве трэці свету галадае.

І чым больш чалавек пазнае сутнасць гэтай сусветнай праблемы, тым мацней яго агортвае непакой. Голад расце амаль прапарцыянальна да прыросту насельніцтва. Яшчэ 25 гадоў назад толькі палова насельніцтва зямнога шара не даядала. Сёння —дзве трэці. Што будзе праз дваццаць пяць гадоў або, напрыклад, у 2000 годзе, калі, як прадказваюць дэмаграфы, колькасць насельніцтва свету павялічыцца да 6 мільярдаў? Ці тады людзі масава будуць паміраць з голаду? Ці тады не будзе сытых? Не, так зусім не мусіць быць. Такую магчымасць можна выключыць абсалютна. Няпраўда, што зямля не можа пракарміць больш людзей, чым ёсць цяпер. Тэорыі аб абмежаваных магчымасцях зямлі, якія прапаведваюцца ўжо няменш як дзвесце год, ужо не раз апravергла жыццё і навука. Як гаворыць сёння навука, наша зямля можа пракэрміць не тры, не шэсць, а 30—38 мільярдаў людзей. Гэта пацвердзіў навукова апрацаваны афіцыйны рапарт, прадстаўлены Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

Каб пракарміць 30—38 мільярдаў людзей, трэба было б толькі падвоіць колькасць ворнай зямлі (цяпер яна складае толькі 9% паверхні) і павысіць сярэдні ўраджай да 30 ц з гектара. Выканаць абодва гэтыя заданні зусім не цяжка з пункту гледжання тэхнічных магчымасцей. Не загаспадараваны велізарныя абшары пустынь, стэпаў і джунгляў. Не выкарыстаны рацыянальна марскія і акіянічныя глыбіні. Але гэта патрэбна для 38 мільярдаў людзей. Для 3—6 мільярдаў трэба значна менш.

Той жа рапарт, які апрацоўвалі вучоныя Усходу і Захаду, сцвярджае, што голад можна было б ліквідаваць вельмі хутка, каб прыдзяліць на гэта толькі частку тых грошай, якія выдаюцца на ўзбраенне. Савецкія вучоныя, напрыклад, падлічылі, што выдаткаў на ўзбраенне ўсіх дзяржаў толькі за адзін год хапіла б не меліярацыю ўсёй ворнай зямлі і на выраб машын і прылад, неабходных для яе апрацоўкі.

Такім чынам, раззбраенне мае непасрэдную сувязь не толькі з умацаваннем міру, але і з магчымасцю ліквідацыі найбольшай ганьбы нашага часу — ліквідацыі голаду.

1965 год павінен прынесці хоць частковую перамогу дабра над злом, гуманізму над эгаізмам, індывідуальнай радасці над няшчасцем. Гэта ж дваццаты год перамогі над фашызмам, дваццаты год міру, дваццаты год дзейнасці (не заўсёды найлепшай) Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, на якую якраз у гэтым годзе пакладаем свае найбольшыя надзеі.

Хацелася б, каб гэты год прынёс усім стопрацэнтную ўпэўненасць у моцным міры, а галодным — рэальную надзею сытасці. У гэтых пажаданнях мы з вамі, паважаныя чытачы, напэўна аднадумны.

**Ул. ЛАЗІНСКІ**




— Пасол «бруднай вайны» Тэйлар.
Мал. Кукрыніксы




# СЯМЯЦІЦКАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ

Як рэалізаваць пастановы апошняга Пленума Галоўнага Праўлення?

Гэта праблема была галоўнай мэтай канферэнцыі старшынь гурткоў БГКТ і актыву таварыства Сямяціцкага павета ў Мілейчыцах.

Даклад, як і творчая дыскусія былі перад усім накіраваныя на працу гурткоў як асноўнай адзінкі дзейнасці таварыства. Дагэтуль найслабейшым бокам працы гурткоў БГКТ была арганізацыйная праца нашых гурткоў, іх незадавальняючае супрацоўніцтва з усімі арганізацыямі, існуючымі на вёсцы.

Аб тым, як гурток павінен працаваць, што ён павінен рабіць, як ён павінен наладжваць супрацоўніцтва з партыйнымі арганізацыямі і ўсімі грамадскімі арганізацыямі, існуючымі на вёсцы, гаварыў дакладчык, сакратар Праўлення Аддзела БГКТ Сяргей Крэйза.

У дыскусіі ўзяло ўдзел шмат асоб. Настаўніцы беларускай мовы, Тэкля Вашчук і Оля Лапацюк, гаварылі аб сваіх дасягненнях і цяжкасцях у навучанні роднай мовы ў школах. Звярнулі яны ўвагу на тое, што дзеці вельмі ахвотна вучацца роднай мове. Аднак не ўсе дзеці беларусаў вывучаюць беларускую мову. Некаторыя бацькі абыякава адносяцца да гэтага прадмета навучання сваіх дзяцей.

Наступнай праблемай, якой занялася канферэнцыя, гэта культурная праца гурткоў. Аб гэтым гаварыў, між іншым, актывіст таварыства Аляксей Стык, які падкрэсліў, што гурток БГКТ перш за ўсё павінен папулярызаваць у сваім асяроддзі нацыянальную культуру па форме і сацыялістычную па зместу. Трэба шырэй развіваць аматарскія, драматычныя, харавыя і інструментальныя калектывы.



На здымку прэзідыум канферэнцыі: злева сакратар ГП БГКТ Уладзімір Юзвюк, член Праўлення аддзела Анатоль Косцюк, старшыня канферэнцыі пасол на Сейм Максім Рудчык і паэт Віктар Швед.

Анатоль Касцюк, сакратар грамадскага камітэта ПАРП і член Праўлення аддзела БГКТ, гаварыў аб неабходнасці пашыраць працу ў гуртку БГКТ. Каб гурток жыў на штодзень усімі тымі праблемамі, якімі жыве вёска, каб ён быў ініцыятарам не толькі грамадскіх чынаў, але ініцыятарам сельскагаспадарчай культуры і асветы.

Старшыня гуртка БГКТ у Сямяцічах, Арсень Анішчук, гаварыў аб неабходнасці распаўсюджвання ведаў аб Беларускай ССР. Трэба, каб у гуртках часцей арганізаваліся даклады і фотавыстаўкі аб гаспадарчых і культурных дасягненнях Савецкай Беларусі. Далей дыскутанты гаварылі аб неабходнасці павелічэння ліку членаў таварыства, рэгулярнасці аплачвання членскіх складчын, за якія адказнымі з'яўляюцца старшыні гурткоў.

На заканчэнне прысутныя на канферэнцыі нашы паэты, Віктар Швед і Я. Анісяровіч (Бурш) чыталі свае вершы, якія былі ўспрыняты бурнымі воплескамі.

*

Пасля канферэнцыі паклікана журы для правядзення конкурсу народнай вышыўкі, дзе было згуртавана 31 экспанатаў. Журы пасля дакладнага агляду экспанатаў прызнала: І месца і І-шую ўзнагароду 500 зл. за вышыўку ручніка народнымі ўзорамі Вользе Бадавец з Мікуліч, ІІ месца і ІІ-ую ўзнагароду 400 зл. за вышыўку і гафт ручніка Надзі Каролюк з Машчаны Паньскай, ІІІ месца і ІІІ-юю ўзнагароду 300 зл. за вышыўку ручніка Зоі Копчук з Мікуліч. Апрача ўзнагарод за месца журы прызнала тры адзначэнні па 100 зл. для мастакоў народнай вышыўкі, Галене Рышчук, Галене Мантюк і Лідзіі Баравік з Баброўкі.

Тэкст і фота:
**Сяргей Крэйза**



На здымку: удзельнікі канферэнцыі.

Наша акцыя

## КНІЖКІ ДЛЯ ДОМА КУЛЬТУРЫ ІМЯ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА Ў ГАРАДКУ

**Падарунак Раісы Масальскай з Беластока:** J. Broniewski *„Z notatnika korespondenta wojennego"* I i II t.; S. Grigoriew *„Kurhan Malachowy"*; G. Kozincew, L. Sławin, L. Tranberg *„Trylogia o Maksymie"*; Kanen Kałczew *„Żywi pamiętają"*, Hans Leberekht *„Swiatła w Koordii"*; P. Pawlenko *„Na wschodzie"*; Włodimir Bill-Biełocerkowski *„Opowiadania"*.

**Падарунак Лёні Леанюка з Плёскаў: Григорий Мень «История одного подвига», В. Н. Евстигнеев «70 героических дней»;** Mikołaj Kostyniuk *„Jak powstały złoża węgla"*.

**Падарунак Сакрата Яновіча з Беластока:** Tadeusz Pietrzak *„Podziemny front"*; Ruth Kraft *„Wyspa bez świateł"*.

## Небяспечны мост

**На шашы з Беластока ў Бельск амаль супроць вёскі Дзяніскі знаходзіцца бетонны масток, які вужэйшы ад шашы. Часта бываюць там розныя выпадкі. У 1964 годзе ў канцы лістапада аўтобус, які ехаў з Бельска ў Беласток, стукнуўся з грузавым самаходам. На шчасце выпадку ў людзях не было, а толькі аўтобус значна пашкоджаны. Прайшло месяц часу і здарыўся другі выпадак. Грузавік з прычэпай вёз бетонныя плыты ў Бельск. Стукнуўся таксама з грузавым самаходам, які ехаў у Беласток. Адзін з грузавікоў завіс на тым мосце, а шафёр паламаў абедзве ногі. Другому шафёру нічога не сталася. Павятовы аддзел будовы дарог ужо даўно абяцаў, што гэты мост пашырыць, аднак нічога не робіць і гэты мост надалей можа быць прычынай да наступных выпадкаў.**

**В. МІРАНЮК, Я. КОСК**
Міхалова



 

БЕЛАВЕЖА
орган літаратурна-мастацкага
АБЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 73

### ЯКАЯ НАЙЛЕПШАЯ ПАРА

Шукаў Сяржа зводак
У змесце буквара,
Якая будзе года
Найлепшая пара?

Нам залатая восень
Нясе ўраджаю шмат.
Да спелых фруктаў просіць
Багатая клець — сад.

Уцехі колькі ўзімку,
Як белы ўсцяж прастор,
Сняжынкі - балерынкі
Завуць дзяцей на двор.

Прыемна надта ўвесну,
Калі сады цвітуць,
І птушак трэлі-песні
Па-над зямлёй плывуць.

А як жа многа ўлетку
Прыгожае красы,
Як спеюць на палетках
Азімін каласы.

Даведаўся Сяржа
Са зместу буквара,
Аднолькава прыгожай
Ёсць кожная пара.



### ДАЛЁКА ДА СОНЦА

Мама вымыла кашулю
І сказала малой доньцы:
Даражэнькая Гануля
Ты павесь яе на сонцы.

З недаверам пазірае
Ганя ў неба сумным зрокам.
Мама, я ж яшчэ малая,
А да сонца так далёка...



### ЛЯНОТА

Ледзь цягнуў у школу ногі
Абібок, гультай Цімошка.
Перайшла яму дарогу
Чорная, як вугаль кошка.

Тут бяда ўжо недалёка,
Думаў Цімка небарака.
Сапраўды ён на уроках
Дрэнныя схапіў адзнакі.

З двойкамі па трох прадметах
Ён дамоў адважна крочыў.
Ці ж яго віна у гэтым
Што кашэчы зрок сурочыў?

Не хлусі ты, кажа тата,
Лепш вазьміся за работу.
Тут не кошка вінавата,
А твая, сынок, лянота.

### ЧАМУ ХАЛОДНАЯ ЖАБА

Чаму, запыталася бабка,
Заўсёды халодная жабка?
Мо' таму, адказала Рая,
Што ніколі не п'е яна чаю.



### КАБ ПАЕХАЛА НАМ ХАТА

Першы раз цягнік у горад
Вёз маленькага Рыгора.
Дым, што хлынуў з паравоза
Выціскаў Рыгору слёзы.
Калі ён ішоў дадому
З коміна дымок знаёмы
Лентай плыў на панадворку.
Адазваўся тут Рыгорка:
Вось было б цікава, тата,
Каб паехала нам хата.



### ІВАН УВОДЗІЦЬ БАЛАГАН

Толькі з ложка ўстаў Іван,
Распачаўся балаган.
Дзе кашуля, дзе штаны,
Дзе падзеліся яны?
Як на злосць таксама знік
Неслухмяны чаравік.
Можа хтосьці шапку бачыў?
Ваня ўсіх пытае з плачам.
Цэлая сям'я шукае,
Нават Зіначка малая.
Аглядаецца матуля,
Дзе ж падзелася кашуля?
З ложка паднялася бабка
І шукае Ваню шапку.
Як адзеўся нейк на сілу
Снедаць часу не хапіла.
І спазніўся на урок,
Балаганны той сынок.
Ну а заўтра зноў Іван
Зробіць дома балаган.



### ПРАЦАВІТЫ ТЫДЗЕНЬ

Памагала так умела
Гэля маме ў панядзелак.
А цалюткі дзень аўторак
Правяла ля бабкі хворай.
Як настала серада
Тата працу ў садзе даў.
Шыла беленькі каўнер
Да сукенкі ў чацвер.
Віншавалі ў пятніцу
У школе выдатніцу.
Як звэсёды у суботу
Дома шмат было работы.
А ў святочную нядзелю
Надта ўсе хвалілі Гэлю.



### ТЫ БЫЛА Ў СНЕ ТАКСАМА

Сон такі цікавы
Слава сніў уночы.
Мама просіць Славу:
Раскажы, сыночак.

Расказваць не буду
Дарагая мама.
Ты ж была усюды
Ў гэтым сне таксама.



Віктар Швед

### ЖЫВЫ ГАДЗІННІК

Ку-ка-рэ-ку, ку-ка-рэ-ку,
Певень заспяваў пад плотам.
Разамкні, сынок, павекі,
Надымайся да работы.

Віця развітаўся з ложкам,
Апрануўся і паснедаў.
Павучыўся яшчэ трошкі
Ды пайшоў тады па веды.

І ніколі не пазнен
На урок хлапец спазніцца.
На руцэ ў яго гадзіннік,
А жывы той — будзіць Віцю.



### ЯК ТУТ НЕ ПАЗНІЦЦА

Жыў ад школы недалёка
Гарэза Валодзя.
Ды пазніўся на урокі,
Хоць рана выходзіў.

Калі раніцою з хаты
Выйшаў забіяка,
Па дарозе на пачатак
Падражніў сабаку.

Потым ён у агароды
Шмыгнуў пажывіцца.
Нарабіў там многа шкоды,
Як найгоршы гіцаль.

Нечакана ў сад як злодзей
Ён палез па грушы.
Гаспадар злавіў Валодзю,
Накруціў за вушы.

Паімчаў за нейкім возам,
Хоча учапіцца...
Шмат спраў розных па дарозе,
Як тут не пазніцца?



### ДРУГАГОДНІК

Бацька адзываецца з дакорам:
Адкажы ты мне сур'ёзна Вася,
Хіба ж гэта ёсць вялікі сорам
Два гады сядзець у адным класе?

Ды чаго саромецца, мой тата,
З майго боку гэта вельмі скромна.
Наш настаўнік пэўна гол дзесяты
Там сядзіць спакойна, бессаромна.



### ЛЁНЯ СОНЯ

Мама просіць сыночка
Мілы мой, уставай,
Разамкні свае вочкі,
Новы дзень прывітай.

Адказаў сонны Лёня:
Меў прыгожы я сон,
Як пасплю даўжэй сёння
Мо' паўторыцца ён.



### ПАТАНУЛІ Ў РЭЧЦЫ ЗОРКІ

Сонца скрылася. Змярканне.
Бабка спіць на печцы.
З хаты вырваўшыся Ваня
Мігам быў на рэчцы.

Прыбягае да бабулі
Раптам з плачам горкім:
Бабка, бабка, патанулі
Ў нашай рэчцы зоркі!



### ЧАКАЎ НА АПОШНІ ЗВАНОК

Тата пытаецца ў Колі:
Што ты рабіў сёння ў школе?
Адказвае таце сынок:
Чакаў на апошні званок.



### АПОШНІ ЛІСТ

Пры стале за урокам Лявон.
За акном ветру зімняга свіст.
Праз адкрытую фортачку клён
Свой апошні прыслаў Лёню ліст.

Неўзабаве даў Лёня адказ:
Не смуткуй, дарагі клёне мой.
Пачакай, праміне зімні час,
Зноў пакрыешся свежай ліствой.



# НАША ШКОЛА

(Працяг са стар. 1)



**РЫГОР АНАЦІК — намеснік дырэктара, шматгадовы настаўнік фізікі і хіміі.** Скромны, і не любіць як кажа, хваліцца. А прайшоў жа ж шмат рознай дарогі са школай Прыйшоў у яе 1 верасня 1949 года. і... «ўжыўся чалавек у гэтую нашую школу. Цяпер маем ужо патрэбную базу для працы, але ж пачыналі ад нічога. Самых простых навуковых дапаможнікаў для ўрокаў фізікі і хіміі не было. Цяпер наш фізічны кабінет — адзін з лепшых у павеце. Даўнейшыя вучні павандравалі ў свет. Прыемна бывае, калі спаткаеш каго».

Кажу: памятаю вас 15 год таму, цяпер гляджу — гэтыя гады як бы не змянілі Вас.

Рыгор Анацік усміхаецца — «вы, рэдактары, умееце гаварыць».

Непадкупны званок кліча яго ў клас. Прыемна было спаткацца. 15 год — гэта і многа і мала. Тэорыя адноснасці і тут пацвярджаецца.

**ІЛЬЯ БЕРНАТ — апора і корань беларускай мовы ў школе.** Таксама ад першых дзён існавання ліцэя і да гэтуль звязаны з ім. Сотням людзей адкрыў зачараваны свет пля-



менных нашых продкаў — Крывічоў, праз прызму вялікіх спадчыннікаў народа — Багушэвіча, Купалы, Коласа, Багдановіча. «Тады, на пачатку? Не вядома было, чаму вучыць і з чаго. Не было праграм, не было кніжак. Першую я дастаў «Беларускую літаратуру ІІ паловы XIX стаг.». І пачуўся раптам Богам. Тады меў многа энергіі, хацелася адрабіць за стагоддзі. Вучыў моладзь, вёў курсы для настаўнікаў». Дадам: складаў праграмы і падручнікі.

Любімым творам Ільі Захаравіча быў «Курган» Янкі Купалы — паэма даўжэзная, ды сапраўдны паэтычны шэдэўр. Без большых намаганняў удавалася яму навучыць ліцэістаў яе напамяць. Даваліося Ільі Захаравічу быць выхаваўцам найбуйнейшага (адны хлопцы) класа ў школе. Называў яго «джунгляй», — раз злосна, раз пяшчотна. Джунгля спявала «Курган» як свой гімн, пазычыўшы мелодыю ад «Раскінулась мора». Не памыляліся ні ў адным слове. Выхавацель цешыўся «мая джунгля спявае».



**УЛАДЗІМІР САБАЛЕЎСКІ** — лекар-хірург, з добрай падрыхтоўкай і яшчэ лепшай будучыняй. Выпускнік Бельскага Беларускага ліцэя, потым Беластоцкай Мелыцынскай Акадэміі. Цяпер працуе дырэктарам бальніцы ў Крынках на Сакольшчыне. Здабывае шляхам вялікага эксперыменту вялікія веды.

Па тэлефону папрасіла некалькі слоў аб сваёй школе. Даслаў пісьмцо. «Усе дадзеныя аб маёй школе табе вядомыя. Я быў сярод тых першых, што выйшлі з яе. Цешуся, што юбілей, што школа развілася і вырасла, а пры першай спрыяльнай сустрэчы за 15-годдзе не выпʼем па чарцы».

Добра. За нашу школу, нашу маці, за працавітыя галовы яе настаўнікаў і апякунчыя рукі выхавацеляў.

Да матэматыкаў, лекараў, інжынераў, што выйшлі калісьці з яе сцен, далучаюся ў пару словах: цешуся, што магу пісаць аб маёй школе, нашай школе.

**Вера Леўчук**

Фота: **М. Хмялеўскі, І. Рыбінскі**

## Карысныя мерапрыемствы

Першая дэкада снежня, гэта дні ўзмоцненай прапаганды і барацьбы супроць туберкулёза. Гайнаўскі грамадскі камітэт супраць туберкулёзны, які ўзначальваецца сакратаром Прэзідыума Павятовай рады нарадовай таварышам Міколам Вішнеўскім у снежні арганізаваў шмат цікавых мерапрыемстваў, тэмай якіх было: прафілактыка і метады барацьбы з гэтай страшнай хваробай лёгкіх.

І так, у пачатковай школе № 2 у Гайнаўцы адбылася «Згадуй-згадуля», а ў пасобных вёсках даклады, фільмы і выстаўкі на гэту ж тэму.

**В. Козак**
Гайнаўка

Палеміка

# НЕ ТУДЫ ДАРОГА

Хачу сказаць, што артыкул Ул. Паўлючука п. з. «Мары аб свеце адзіноцтва» я прачытаў без асаблівага зацікаўлення і быў крыху здзіўлены, што штосьці падобнае было замешчана на старонках «Нівы».

Нельга сказаць, што аўтар, пішучы артыкул «Мары аб свеце адзіноцтва», не меў асабістых праблем, што пісаў яго толькі для таго, каб перасцерагчы другіх перад адзіноцтвам. Чытаючы артыкул Паўлючука даходзім да таго, што паўлючукоўскі герой Дамян, яго нявернная жонка Манька, месца акцыі Старая Вёска — усё гэта прыдумана аўтарам пэўна толькі для таго, каб чытачы не літаваліся над Дамянам, над яго сумным лёсам, а памагалі самому аўтару, г. зн. Ул. Паўлючуку, вылезці з цяжкай жыццёвай сітуацыі.

Бо сапраўды ў сучасны час, у час вялікіх падзей народа, калі ідзе барацьба аб павелічэнні і якасці прамысловасці, калі ідзе барацьба аб кожны кілаграм узросту ўраджаю, калі цэлы свет з затоеным дыханнем сочыць за доследамі савецкіх вучоных, якія вызначаюць новыя шляхі міжпланетных прастораў, калі ўвесь свет дэманструе на знак пратэсту брутальнай палітыкі капіталістаў у Конга і В'етнаме, паўлючукоўскі герой, можна інакш сказаць, сам аўтар, пападае ў дэпрэсію, песімізм, меланхолію, адзіноцтва.

Паўлючукоўскі герой — гэта самалюб. Дамян не ўмее зжыцца з вясковым асяроддзем, ён не хоча, каб людзі ведалі, аб чым ён гаворыць з жонкаю (а гэта ўжо яўная хлусня, каб сусед цікавіўся такімі дэталямі суседскага жыцця), не хоча, каб хто да яго хадзіў і толькі з прычыны гэтага самалюбства ўцякае з вёскі ў горад. Гарадскія жыхары цікавяцца навапрыбылым, гэта таксама цікавіць вяскоўцаў, але відаць пазналі «пана па халявах» а і ніхто сяброўства не накідае другому сілаю.

У канцы Паўлючук даходзіць зусім да абсурду і гаворыць, што людзі мілыя, ёсць аб чым марыць, бо ў вёсцы чалавек з'яўляецца нявольнікам з'яднанай, збітай грамадскасці, бо малады чалавек купляе матацыкл толькі для таго, каб імчацца на дзесятую вёску (тады на што ў вёску, не лепш у дзесятае поле?) і марыць аб адзіноцтве.

Гэта значыць, што Паўлючук не ведае вёскі, не ведае募 мараў і імкненняў маладога сучаснага чалавека і ўгаварвае нам свае нейкія чорныя думкі.

Сучасны малады чалавек не мае часу марыць аб нейкіх там нябесных мігдалах, ён заняты працай, кніжкай, спортам, радыё ці тэлевізарам. Сучасны малады чалавек не ездзіць матацыклам сам, каб толькі марыць, ён вязе з сабою дзяўчыну, сябра ці жонку, едзе пагуляць, навязаць новыя сяброўскія кантакты, едзе на раку пакупацца, ці ў цэнтру пагутарыць, адпачыць.

У бягучай хвалі людскога жыцця герой Паўлючука загубіўся, затрымаўся і спалохаўся, што не можа дараўнаць кроку гэтай бягучай рацэ, ён кідаецца да ўсіх і крычыць, просіць: міленькія, даражэнькія, памажыце мне, людзі, ратуйце мяне, дайце мне дарогу, пакажыце. Ён ненавідзіць братоў, сватоў, суседзяў, што Манька ліхая жонка. Тады якая ж жанчына будзе добрая з такім самалюбам? Бо сапраўды цяжка тут разабрацца. Паўлючук раз гаворыць, што чалавек у грамадскай збітай вясковай масе — гэта нявольнік, другі раз крычыць: беражыцеся адзіноцтва, бо яно вядзе да самагубства. Мала таго. Паўлючук дае нам на ўзор нейкага Дзірхайма гаворачы, што гэта разумны чалавек і варта ягоныя доследы зашчапіць у нашае асяроддзе. Баюся, каб Паўлючук на запрапанаваў нам хіраманцыю ці «соннік эгіпскі», ці яшчэ якую там каўтунскую кніжку.

Бо да рэчы, што нас абходзяць нейкія там Дзірхаймы, іх капіталістычныя трызненні, мы, людзі сучасныя, ведаем цану сяброўства і толькі дзякуючы яму будзем будаваць лепшае і шчаслівейшае жыццё, кажучы такім Дзірхаймам, што нас не набярэш. Не туды дарога.

**Уладзіслаў Дваракоўскі**

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

# У ГЛЫБ БІЯХІМІІ

Кармленне жывёлы — гэта хімія. Кожны корм складаецца з «цаглінак», а тыя ў сваю чаргу — з маленечкіх частачак, званых хімічнымі элементамі. Напрыклад, бялок складаецца з так званых амінакіслот. Цяпер ужо навука ведае больш 30 амінакіслот. Жывёльны бялок мае ў сабе больш дзесятак найважнейшых амінакіслот. Таму і гаворым, што жывёльны бялок высакавартасны. А бялкі большасці раслін не з'яўляюцца паўнавартаснымі, бо маюць у сабе вузкі асартымент амінакіслот.

Гэта мае вялікае значэнне ў кармленні жывёлы. Каб хутка адкарміць парася, трэба даць яму ў корме шмат высакавартасных бялкоў, бо бялок — гэта асноўны матэрыял, які патрэбны на прырост мяса. Таму і збожжавыя мяшанкі, прызначаныя на рост маладняка або на адкорм, маюць у сабе каля 15—20% жывёльных бялкоў.

Але вернемся да тэмы. Як і бялок, іншыя рэчывы складаюцца з дробных частачак. Жывёла, з'ядаючы корм, спачатку перамеле яго, потым корм вымешваецца са слінай, затым на яго ўздзейнічаюць розныя сокі страўніка і іншых частак арганізма. Гэтыя сокі раскладаюць бялкі, тлушчы, вугляводы і іншыя рэчывы на простыя злучэнні. І толькі пасля гэтага жывёла можа выкарыстаць гэтыя рэчывы на будову ўласнага арганізма і на прадукцыю.

Апрача асноўных кармавых рэчываў (бялкі, вугляводы, тлушчы) жывёла павінна атрымліваць у корме мінеральныя солі, вітаміны, мікраэлементы і ваду. Часта сустракаемся са спадам малочнасці, нягледзячы на тое, што карова атрымлівае шмат кармоў. Аднак гэтыя кармы маюць, напр., мала вапны. На працягу нейкага часу карова аб свінаматка выдзяляе яе з уласнага арганізму, а потым бароніцца перад гэтым, змяншаючы колькасць малака.

Увесь сэнс у тым, каб умець правільна падабраць кармы, утрымаць пэўныя прапорцыі, адпаведна падрыхтоўваць кармы, прытрымлівацца акрэсленых гадзін у кармленні і паенні, чысціні.

Вялікай памылкай з'яўляецца паенне жывёлы раз на дзень або нават раз на некалькі дзён. Карова павінна атрымліваць у дзень 40 — 60 літраў вады. Інакш не паможа найлепшы корм.

**Інж. М. Сухажэўскі**







# ЗІМНЯЕ ЛЕЦЕЙКА

Вы, напэўна, ведаеце першакласніцу Майку? Вось пра яе мы і раскажам. Як яна Новы год сустракала ў дзеда і бабкі ў лесе. Дзед у яе — ляснічы.

У пакоі стаяла вялікая — пад самую столь — ёлка, уся ў каляровых лямпачках, у маленькіх цацках і бліскучым бялюткім снезе. Пад ёлкай стаяў Дзед-Мароз, ростам якраз з Майку. За спіной у яго быў мех, а ў руцэ — высокі кій.

Бабуля абняла Майку за плечы, пацалавала і сказала расчуленым голасам:

— Вось, дзіцятка, Дзед-Мароз прынёс табе падарункі за тое, што ты добра вучылася і слухалася настаўнікаў.

— Я не маленькая! Дзед-Мароз — гэта глупства. Я ведаю: ён з ваты зроблены, — раззлавалася Майка. — Нам у класе настаўніца чэшскую казку чытала. «Дванаццаць месяцаў», называецца. Там адна дзяўчынка ўсе месяцы адразу ўбачыла. А потым настаўніца сказала нам, што ўсё гэта — няпраўда і лета ніколі з зімою не сустракаецца. Нам, школьнікам, сорам верыць казкам пра ўсякую ўсячыну і пра Дзеда-Мароза.

Бабка амаль не заплакала, дзед засмяяўся:

— Казка, кажаш, загінула? Не! Мы яе знойдзем. Раніцай пойдзем і знойдзем.

— Усё адно не паверу, — стаяла на сваім Майка.

— Пераначуем — болей пачуем, — сказаў дзед.

— Уставай, унучачка, уставай! — будзіў назаўтра яе дзед. — Сустракай першую раніцу Новага года. Пойдзем мы з табой да лесавічка ў госці. А жыве ён не за гарамі, не за лясамі, а побач з намі: там, дзе лета з зімой сустрэліся.

— Глупства якое, — кажа Майка. — А ён вельмі страшны?

— Лесавічок мой? — смяецца дзед. — Ды ён ростам усяго з сасновую шышку!

Увайшлі ў лес. Спыніліся. Дзед дастаў з кішэні хустачку.

— Ну, унучачка, цяпер я завяжу табе вочы. Казка любіць каб з ёй у жмуркі гулялі. Толькі ўгавор: не падглядаць! Давай лапку, я павяду цябе.

Доўга ці нядоўга ішлі дзед з Майкай, — пасадзіў ён яе на нейкую лавачку і пытаецца:

— Што ты чуеш?

— Выццам вадзічка цурчыць.

— Яна і ёсць.

— Гэта ты знарок так робіш. Зімою ж лёд.

— А тут лецейка. Мы прыйшлі ўжо. Скідай павязку.

Майка скінула з галавы хустачку і ахнула.

Яны з дзедам сядзяць у альтанцы сярод лесу. На застрэшках звісаюць ледзяшы, а знізу пад імі весела плюскоча рэчка ў зялёных берагах. З неба падаюць сняжынкі, але далятаюць толькі да паловы вялікай яліны — і знікаюць, растаюць на ляту... На зялёных лапах яліны снегу няма. І рэчка плюскоча, як улетку. На дне яе зялёныя доўгія травы калышуцца — косы русалак. Па берагах — траўка-мураўка, трыпутнік і верасок цвіце.

— Дзядуня! — шэпча Майка. — А хто гэта там на галіне над вадой?

— Птушка тая? — гэтак жа паціху пытаецца дзед. — З тоўстай галавой і доўгай дзюбай?

— Але. Гэта ёлачная? Яна не жывая? Я ж ніколі не бачыла такіх прыгожых. Ай! Яна кінулася ўніз галавой!... Яна ўтапілася?

— Што ты, унучачка! Гэта — зімародак, вадзяны верабей. Вунь вынырнуў. І рыбка ў дзюбе. Сапраўдная казачная птушка!

— Праўда?... — шэптам пытаецца Майка.

— Гэта казка — праўда. А ты пад ялінку, пад ялінку зірні! Бачыш, пянёк пад ёй? Ён быў пусты ў сярэдзіне, а мой лесавічок у ім хатку сабе збудаваў. Бачыш — ганачак з тонкіх яловых лапак?

— Бачу, дзядуля, бачу! Ой! Хто з яго выскачыў? Ці то мышка, ці то птушка? Карычненька. І хвосцік тырчыць.

— Дык гэта і ёсць мой памочнік — лесавічок. Падкарэннік, а яшчэ яго дзяры-хвост называюць. Бачыш? Бачыш — на ялінку ўзляцеў? Сонейка выйшла — зараз заспявае.

І праўда. Майка з дзедам пачулі, як заспявала птушка. Потым песня змоўкла.

— І лесавічок кудысьці знік, — сказала Майка. — І дзівоснага вераб'я няма. Дзядуля, а яны былі?

— А як жа, унучачка! Ты што ж, сваім вачам не верыш? Бачыш: вакол зіма, а рэчка цурчыць, цурчыць... Зялёная траўка па берагах.

— А я думала — гэта ўсё няпраўда... Ніколі такіх птушак не бачыла. Ніколі не ведала, што лета зімой бывае.

— Гэта гарачая крыніца, унучка, цяпер ты ведаеш, якія ў жыцці сапраўдныя казкі бываюць.

**Віталі Біянкі**



# МАСКАРАДНЫЯ КАСЦЮМЫ

### СНЯЖЫНКА

Касцюм сняжынкі робіцца з марлі. Ліф з вузкімі плечыкамі аздабліваецца бліскучымі сняжынкамі. Спаднічка робіцца так. Біруць некалькі палотнішчаў марлі, злёгку падкрухмаленых, і забіраюць у густую зборку. Спадніца таксама аздабліваецца бліскучымі сняжынкамі. Валасы ўпрыгожваюцца ланцужком зорачак-сняжынак, нанізаных на каснічок. Туфлі і панчохі белыя.

### ПЕСНЯ



Зрабіць такі касцюм нядзяжка. На школьны белы фартух нашыйце чорны шнур або вузенькі чорны каснічок — нотныя лінейкі і ўзор ключа. Ноты зрабіце шляхам аплікацыі з нарэзаных аваламі кавалачкаў чорнай паперы, цыраты або матэрыі. Нашыйце іх, як паказана на малюнку, на фартух. Сукенку можна надзець і белую. На галаве ў дзяўчынкі-песні — абруч з завіткоў у выглядзе скрыпічнага ключа, які робіцца з дроту і абматваецца чорнай стужкай або каснікам.

### АСТРОЛАГ

Каўпак астролага робіцца конусападобны. Калі каўпак склеены, зафарбуйце яго ў цёмна-сіні колер начнога неба і паклейце на яго выразаныя з бліскучай фальгі месяц, зоркі і каметы. Памеры каўпака і зорак дадзены на малюнку.



На плячах у астролага плашч, зроблены з матэрыялу чорнага, цёмна-сіняга або карычневага колеру. На шыі — вялікі каўнер з белай накрухмаленай марлі. У руках — доўгая падзорная труба са шчыльнай паперы. Труба афарбоўваецца ў чорны колер і аздоблена сярэбранай фальгой.



паліўшы вогнішча, дзеці пачынаюць вадзіць карагод. Хто што толькі ўмее, абавязкова павінен паказаць: танцоры (хоць без касцюмаў і ў цёплых кажушках) з ахвотай тупаюць вакол птушынай ёлачкі, спевакі падвучаюць зімовых птушак, як трэба спяваць, дэкламатары стараюцца адзін перад другім — хто лепш.

Калі касцёр дагарыць, вясёлыя, узбуджаныя дзеці ціхенька пакідаюць ахутаны змрокам заснежаны лес. Настала ноч і прыйшоў час даць звярам нацешыцца цудам у лесе — навагодняй ёлкай з найсмачнейшымі прысмакамі.

*

Такую ёлку штогод арганізоўвае дружына зухаў «Сонечная грамада» з Войшкаў. Апрача навагодняй ёлкі для звяроў кожны з зухаў зрабіў кармушку для птушак у сябе на падворку. Вераб'і і сінічкі добра ведаюць сваіх гасцінных сяброў.

У зімовыя канікулы зухі не забываюць і аб чысчэнні снегу на вясковай вуліцы і ля сваіх хатаў. Калі снег не расчышчаны перад хатай, усе ведаюць, што найбольшы сорам за гэта спадзе на галаву зуха, які там жыве.

У гэтым годзе дружына змагаецца за званне перадавой, якое можна атрымаць толькі пасля чатырох гадоў добрай працы. У гэтым годзе войшкаўскія зухі здабываюць спраўнасці пісьманосца і ўсюдыбывальскага. Каб пазнаёміцца з працай пісьманосца, дзеці хадзілі на пошту, размаўлялі з пісьманосцамі, на зборах рабілі шапкі - форменкі і сумкі для пісьманосцаў і ўсе выпішуць «Зорку» на 1966 год.

Каб здабыць спраўнасць усюдыбывальскага, трэба здабыць вельмі шмат ведаў, шмат пабачыць. Спачатку трэба добра пазнаёміцца са сваёй мясцовасцю. Першая экскурсія — у сельскагаспадарчы гурток. Кожнае заданне зуховыя шасцёркі атрымліваюць у запячатаных канвертах, бо гэта таямніца. А аб таямніцы нельга гаварыць уголас.

**ЗОРКА**

## Пазнаёмімся

Дарагая Зорка!

Пазнаём мяне з сябрамі і сяброўкамі з іншых вёсак. Я хаджу ў пяты клас.

**Вера Шыманюк**
**в. і пошта Семяноўка**
**Гайнаўскі павет.**

*

Я вучуся ў сёмым класе. Люблю беларускую мову. Займаюся філатэлістыкай. Маю шмат розных марак. Хачу пазнаёміцца з філатэлістамі.

**Юрый Ляшчынскі**
**в. Новае Ляўкова**
**пошта Старое Ляўкова**
**Гайнаўскі павет.**

Дарагая Зорка!

Пазнаём нас з сябрамі і сяброўкамі з іншых школ. Мы вельмі любім чытаць «Ніву» і «Зорку». На кожнае пісьмо дамо адказ.

**Давідзюк Віктар, клас V,**
**Карольчук Галіна, клас IV,**
**Нікалаюк Ліда, клас IV,**
**в. Паўлы, пошта Рыбалы,**
**пав. Бельскі.**





# АБ ЛЯСНЫМ ЦУДЗЕ



Ціха ў зімовым лесе. Ледзь відочна сцяжынкаю па свежым снезе гуськом адзін за адным ідуць дзеці. Кожны нясе пакуначак. Нясе асцярожна, пільна ўглядаецца пад ногі, каб не ўпасці, і не папсаваць далікатную ношу.

Нарэшце група спыняецца.

— Вось мы і прыйшлі, — гаворыць настаўніца. — Гэтую ёлку мы выбярам на навагоднюю прыгажуню для птушак і звяроў.

Дзеці хуценька развязваюць свае пакуначкі.

Чаго тут толькі няма! Ужо за месяц перад канікуламі дзеці пачалі рабіць цацкі на ёлку. Спачатку рабілі для сябе, а потым і для птушак. Але дзеці ведаюць, што зімой птушкам і зьвяркам цяжка даводзіцца шукаць ежу. Яны ж з'яўляюцца сябрамі звяроў. Ужо восенню пачынаюць збіраць корм для птушак і звяроў: хто сена прынясе, хто жменьку аўса, а іншы нават кавалачак хлеба ці саланіны. Таму на навагодняй ёлцы ў лесе не павінна быць недахопу ў прысмаках: для зайцаў — морквы, для казуль і сарнаў — сена, для птушак — зерня, скурак ад хлеба і саланіны.

Прыгожа прыбраўшы ёлку, і рас-



## Для самых маленькіх



Свята ў нашага Міколы —
Ходзіць радасны, вясёлы.
Двоек болей не нясе:
На канікулах усе.

ФАЛЬКЛОР БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

# КАЛЯДЫ Ў НАРОДНЫХ ПЕСНЯХ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

Каляды... Цяжка сёння разгадаць, што абазначала гэтае слова ў нашых продкаў у далёкай, пакрытай пылам забыцця і спабітай павуціннем легенд, мінуўшчыне. Адно толькі можам з упэўненасцю сцвердзіць, што «калядамі» славяне, а асабліва беларусы, спакон веку называюць той перыяд у годзе, калі дзень паволі пачынае перамагаць над ноччу. Беларус-селянін — пільны і ўважлівы назіральнік прыроды — здаўна заўважыў, што разам з тым, калі дзень пачынае пабольшвацца, а ноч скарачацца, наступае асноўны пералом у прыродзе. Сама прырода як быццам бы прарочыць блізкае вяртанне святла і цяпла, вяртанне спадзяванняў на лепшы ўраджай, на шчаслівейшае жыццё.

Гэтую вялікую падзею ў прыродзе і ў штодзённым сельскім жыцці селянін на Беласточчыне яшчэ і сёння адзначае шматлікімі абрадамі. Да іх нелажаць і незвычайна багата накрыты стол у калядны вечар, і варожбы аб ураджаю на будучы год, і здагадкі аб асабістым жыцці. Гэта ўсё надзвычай цікавыя і вельмі паказальныя з'явы ў нацыянальным жыцці народа. Мы ж сёння займаемся толькі адной з іх, а іменна песнямі. Наш выбар выпаў на калядныя песні таму, што ў песнях заўсёды выражаецца народная душа, таму, што песні адвечныя спадарожніцы чалавека, выразнікі яго мінулага, дум і спадзяванняў.

Сярод незлічонага багацця калядных песень, якія спяваюцца і цяпер «каляднікамі» ў беларускіх вёсках на Беласточчыне мы выбралі толькі некалькі. Вось адна з іх:

**ГАГАТУХА**

**Васілёва маці**
**Пашла гагатаці —**
**Зіму калатаці,**
**Лета дабываці.**
**На новае лета**
**Радзі, Божа, жыта —**
**Корч карчысты,**
**Сцябло сцяблiста,**
**З аднаго сцяблочка**
**Будзе жыта бочка,**
**З аднаго вічка**
**Будзе жыта пісчка.**
**Гу-гу-гу!**
**Дайце тога,**
**Што на рагу:**
**Кішкі з міскі,**
**Каўбаскі з ласкі,**
**Пірага з стала.**

(Запісана ў в. Вулька, пав. Бельскі)

Абрадавы характар гэтай песні не падлягае сумненням. «Каляднікі», спяваючы яе, клікалі («дабывалі») лета і праганялі («калаталі») зіму, выражалі пажаданні гаспадару вялікага ўраджаю, але і не забывалі аб падзяцы за пажаданні... «Гагатуха», відаць, належыць да найбольш старажытных песень, яна сведка часоў, калі селянін-беларус яшчэ моцна верыў у сілу абраду для выклікання пажаданага. У адной з «гагатух», запісанай у Гайнаўскім павеце, знаходзім довад, што яна спявалася ў часы паншчыны:

**З аднаго каласочка**
**Будзе жыта бочка,**
**З адной каласіцы**
**Будзе бочка пшаніцы.**
**Гусям — палова,**
**Дабыткаві — салома,**
**П а н о в і — ядро,**
**А на весь год — дабро.**

Але не толькі справы гаспадарскія апяваюцца ў калядных песнях. Значныя падзеі ў жыцці сялянскай сям'і знайшлі шырокае адлюстраванне ў іх. Вось дзве калядныя песні, якія спяваюцца будучай маладой і будучаму маладому:

**Пава хадзіла, пер'е губіла,**
**Гэй, каляда, пер'е губіла.**
**Оля хадзіла, пер'е збірала**
**Пер'е збірала, у фартушок клала,**
**З фартушка брала, у падушку клала,**
**Падушку брала, у бела ложа слала.**
**Ой, ложа, ложа, хто ж на табе ляжа?**
**Месяц з зораю, Оля з Толяю,**
**Гэй, каляда, і г. д.**

Не менш пахвальная песня спяваецца будучаму маладому. Падобна як у песні для будучай маладой гаворыцца аб «паве» як птушцы найбольш прыгожай, так у песні для будучага маладога ён прадстае перад намі як храбры казак-наезнік. Будучая ж маладая пара — гэта месячык з зоркаю — самая высокая пахвала ў адрас прыгажосці ў народных беларускіх песнях:

**Свісток засвістаў, званчык зазваніў,**
**Звончык зазваніў — Толечку збудзіў.**
**Толечка ўстаў — каня ўсядлаў**
**Каня ўсядлаў трыма каронамі.**
**Адна кажа: зорачка ідзе,**
**Другая кажа: месячык ідзе,**
**Трэця кажа: Толечка ідзе.**
**Толечка ідзе, Олечку вядзе.**
**Олечка ідзе — вона зіяе,**
**Вона зіяе — сон прыкрывае.**

І яшчэ адна песня з Гайнаўскага павета, у якой славіцца першынец у маладажонаў:

**Там на пухаві, там на пярыне, каляда,**
**Грэсёва жона сына павіла, каляда,**
**Сына павіла, дочку жадала, каляда,**
**А сама села ў канец стала, каляда,**
**Піша лістанькі, шле пасланцы, каляда,**
**Ой, прыбудзь, прыбудзь, малады Грэсю, каляда,**
**Бо твая жона сына павіла, каляда,**
**— Ой, каб знаў я, што то праўданька, каляда,**
**Запісаў бы я тры гароданькі, каляда,**
**У першым гародзе — жыта-пшаніца, каляда,**
**У другім гародзе — вішні-чарэшні, каляда,**
**У трэцім гародзе — красны малайцы, каляда,**
**Жыта-пшаніцу час пажынаці, каляда,**
**Вішні-чарэшні час пазрываці, каляда,**
**Маладога Мішу час мужаваці, каляда,**
**Ой, не час, не час, бо яшчэ маленькі, каляда,**
**Бо яшчэ маленькі, неразумненькі, каляда,**
**Бо яшчэ не ўмее ключоў насіці, каляда,**
**Ключоў насіці, скрыню адмыкаці, каляда,**
**А за прыпеўкі гарнец гарэлкі, каляда.**



Спяваюцца таксама песні і першай народжанай дзяўчынцы, ёсць таксама песні і для маладой пары, якая толькі што ўвайшла на новую дарогу супольнага жыцця. Усе гэтыя песні надзвычай каларытныя, цікавыя па форме і займальныя па зместу.

У заключэнні хацелася б сказаць, што беларускія калядныя песні на Беласточчыне — гэта надзвычай багаты раздзел у скарбніцы песеннай творчасці нашага насельніцтва, яны довад вялікай музыкальнай і паэтычнай адаронасці беларускага працоўнага люду.

Алесь Чабор

# ШТО ПЛАНУЕЦЦА НОВАГА Ў НОВЫМ ГОДЗЕ

(Працяг са стар. 1)



**ЭДВАРД КРЫНСКІ** — куратар Беластоцкай Школьнай Акругі:

— Перад усім, будзем зашпіляць на ўсе гузікі справы звязаныя з увядзеннем рэформы пачатковага навучання. У першую чаргу 50% настаўнікаў павінна мець дадатковыя кваліфікацыі. Тут трэба пахваліць Гайнаўскі павет, дзе найбольш настаўнікаў здабывае дадатковыя кваліфікацыі ў настаўніцкіх студыях. Апераджае Гайнаўшчыну толькі горад Беласток...

У новым годзе возьмемся за падрыхтоўку рэформы сярэдніх і прафесіянальных школ, таму, што ў гэтыя школы будуць паступаць ужо не сямікласнікі, але васьмікласнікі. Таму трэба будзе павысіць узровень навучання ў сярэдніх школах... Трэба будзе пры дапамозе бацькоў пашыраць школьныя памяшканні.

З нагоды Новага, 1965 года, хочацца перадаць на старонках «Нівы» самыя сардэчныя прывітанні і пажаданні добрых вынікаў у працы, шчасця і здароўя для настаўнікаў, кіраўнікоў, дырэктараў і працаўнікоў школьнай адміністрацыі.

**ЮЗЭФ РОДЗІК** — старшыня Ваяводскага Праўлення сельскагаспадарчых гурткоў:

— Навука і практыка даказала, што старыя метады прадукцыі з'яўляюцца недастатковымі.

Наша арганізацыя шмат чыніць у галіне шырокага навучання сялян, папулярызацыі дасягненняў сельскагаспадарчай навукі і перадавога вопыту. **Навінаю** з'явіцца тое, калі кожны гаспадар будзе мець уласную праграму аграмінімуму, а кантролю рэалізацыі гэтых праграмаў возьмуць у свае рукі **вясковыя кантрольныя тройкі** з дапамогаю аграномаў.

У 1965 годзе сельскагаспадарчыя гурткі прысвецяць шмат увагі спецыялізацыі ў сельскагаспадарчай прадукцыі шляхам арганізавання спецыялістычных секцый у сваіх гуртках. У надыходзячым годзе сельскагаспадарчыя гурткі атрымаюць звыш 700 машынна-трактарных камплектаў і шмат іншых сельскагаспадарчых машын. Гэта, безумоўна, карэнным чынам прычыніцца да адпаведнай рэалізацыі праграмаў аграмінімуму і развіцця сельскагаспадарчай прадукцыі.

Ад імя Ваяводскага Праўлення сельскагаспадарчых гурткоў, жадаю ўсім сельскагаспадарчым гурткам і гурткам вясковых гаспадынь, а таксама ўсім гаспадарам штораз лепшых вынікаў у Новым, 1965 годзе.



**УЛАДЗІМІР ЮЗВЮК** — сакратар Прэзідыума Галоўнага Праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства:

— Прэзідыум Галоўнага Праўлення Таварыства на сваім апошнім пасяджэнні 16. XII. прадыскутавала ўказанні да плана дзейнасці Таварыства на 1965 год. І так, прадбачана актыўна ўключыцца **ў выбарчую кампанію,** а таксама шырока адзначыць 40-годдзе дзейнасці «Грамады», гэтай самай магутнай сялянскай арганізацыі не толькі ў перадваеннай Польшчы, але, бадай, у Еўропе.

Затым намерваемся прысвяціць шмат увагі справе прыцягнення настаўнікаў да дзейнасці ў Беларускім Таварыстве (правядзем курс для настаўнікаў). Маем надзею выдаць зборнік 150 беларускіх народных песняў Беласточчыны, для якіх ужо напісаў музыку лодзінскі кампазітар Э. Цюкша. Будзе надрукаваны зборнік вершаў Віктара Шведа, а таксама літаратурны альманах, у якім будуць змешчаныя творы пятнаццаці аўтараў...

**ЯН ВЯРБІЦКІ** — прэзас ВЗГС «Самапомач Хлопска»:

— На весну моцна возьмемся за правядзенне вапнавання падквашаных глебаў і папулярызацыю аміякальнай вады, якая выдатна паляпшае ўраджайнасць. Маем на гэта шэсць з паловай мільёнаў злотых.

Амаль пры кожным ПЗГС створым рамонтна-будаўнічыя брыгады, якія будуць выконваць заказы гаспадароў. Пачнем прадукцыю тыповых абораў 500—800 шт. у год. Кошт такой аборы каля 18 тыс. зл. і можна яе пабудаваць з гатовых элементаў. На аплату аборы можна будзе ўзяць крэдыт на 30 год — з тым, што першыя тры гады гаспадар нічога не плаціць.

Пабудуем дзесяць кавальска-слесарскіх пунктаў і сорак пунктаў скупу. У надыходзячым годзе выплаты за дастаўкі на суму да **адной тысячы** злотых можна будзе атрымаць непасрэдна ў пункце, не трэба будзе хадзіць за грашыма ў СОП.

Членскім камітэтам пры вясковых крамах наладзім спецыяльныя курсы. Камітэты павінны дбаць не толькі аб выбар тавараў і кантролю, але таксама рашаць справы прыёму працаўнікоў крам.

На 1965 год плануем абарот на суму сямі мільярдаў злотых.

Размовы правёў
Сакрат Яновіч

# ХЛОПЕЦ З ЗАЛАТЫМІ РУКАМІ

**Толік Фралоў — гэта просты вясковы хлопец, якіх сустракаем штодзень дзесяткамі, сотнямі ў нашых вёсках. Нарадзіўся ён у Кузаве ў Гайнаўскім павеце. Дзяцінства правёў без бацькі. Нават яго не памятае. Меў некалькі гадоў, калі немцы забралі бацьку і вывезлі ў канцэнтрацыйныя лагеры. Ад гэтага часу і загінулі па ім усе сляды.**

**У пачатковай школе цікавіўся перад усім фізікай. Будучы ўжо ў 7 класе пачаў чытаць журналы «Радыё» (на рускай мове) і «Млоды тэхнік». Пачаў упершыню рысаваць розныя схемы і канструяваць простыя мадэлі радыёпрыёмнікаў. Закончыўшы пачатковую школу, пачаў працу пісьманосца ў Чаромусе і завочна вучыцца ў Варшаве на радыёмеханічным семінары. Закончыўшы гэты семінар праз нейкі час быў дома, а потым распачаў працу ў сямяціцкім ЗУР-це. У вольныя хвіліны яго ўсе думкі займала радыётэхніка. Вучыўся ўсё больш і больш, дабіваўся да аднаго: уласнымі сіламі зрабіць радыёпрыёмнік. Цяжка было радыёмеханіку-самавуку. Нічога не выходзіла.**

**У гэтым годзе закончыў ён «сэрвіс тэлебачання» ў Варшаве. Мог ужо не толькі рамантаваць радыёпрыёмнікі, але таксама і тэлевізары. Цяпер яго думкі імкнуліся ў другім напрамку — зрабіць тэлевізар. Распачаў будову «свайго» тэлевізара яшчэ ў мінулым годзе, а закончыў толькі ў жніўні г. г. Рабіў толькі ў вольныя хвіліны. Праца закончылася паспяхова. Цяпер у кожную нядзелю ці вольны вечар збіраюцца суседзі ў Толікавай хаце і аглядаюць тэлевізійныя перадачы. Вось да чаго дабіўся просты вясковы хлопец без сярэдняй нават адукацыі.**

**Ужо цяпер Т. Фралоў збіраецца рабіць тэлевізар супольна з радыёпрыёмнікам і грамафонам. Пакуль што падбірае патрэбныя дэталі. Працу распачне ў наступным годзе. Што ж можна больш сказаць?.. Засталося толькі пажадаць кузаўскаму самавуку самых найлепшых поспехаў у яго працы і каб на гэты раз эксперымент таксама быў на «сто два».**

УЛАДЗІМІР СІДАРУК
Кузава

# НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

## СУСЕД СУСЕДУ ВОЎКАМ



Многа вінтовак і вялікая нянавісць. Адно і другое прывазное, імпартаванае. Гэта востраў Кіпр. Стралялі дзесяць месяцаў — турак у грэка, грэк у турка. Маюць удосталь амуніцыі, каб страляць другія дзесяць месяцаў — і маюць даволі прычын, каб апраўдвацца праз наступныя сто год. Засядаюць у ценю апельсінавага дрэва — туркі з каваю, грэкі з віном — і старыя маладых навучаюць ненавідзець.

Большасць мужчын на востраве Кіпр з'яўляецц узброенымі — 80, а мо' і 100 тысяч чалавек. Кожны шосты жыхар вострава можа выстраліць у любую хвіліну. Дзіўная гэта краіна, дзе яшчэ год назад не было войска. Сёння ёсць на востраве восем армій і тры паліцыі, не лічачы жандармерыі.

Англічане прадавалі зброю абодвум бакам і адначасова ўзмоцнілі свае базы на Кіпры. Начамі туркі падвозілі зброю сваім суродзічам на кіпрыйскім беразе. Адной ночы дастаткова, Кіпр ад Турцыі знаходзіцца ў адлегласці 60 кіламетраў. Грэцыя ў дзесяць разоў далей, але ці прэзідэнт Макарыяс мае права легальна купляць узбраенне? — Мае. І так. падплылі да Кіпра транспарты на чале з ген. Грывасам, слаўным правадыром кіпрыйскіх паўстанцаў часоў англійскай каланіяльнай акупацыі Кіпра.

Абодва бакі — туркі і грэкі — безупынку ўзбройваюцца, нават будуюць асобныя дарогі і аэрадромы. Праводзяць вайсковыя парады, чысцяць аружжа, грукацяць абцасамі, узаемна палохаюцца.

У 24-ую гадавіну нападу фашысцкай Італіі на Грэцыю прэзідэнт Макарыяс першы раз палічыў патрэбным урачыста адзначыць гэту дату. Ранкам наладзіў малебень, а днём прыняў ваенны парад. Механізаваная пяхота, бронетанкавыя часці, танкі, мінамёты, артылерыя — ехалі нават грузавыя машыны і бульдозеры — словам усё, што жалезнае і цвёрдае. Не было крыкаў, выбуху радасці, усмешак. Толькі грукат гусеніц і гул вайсковых бубнаў. Гэтыя гукі напэўна чулі ў турэцкім квартале горада.

Там правадыр туркаў др Кучук прымаў уласны ваенны парад, зараз жа — назаўтра. Туркі не маглі змаўчаць грэчаскай дэманстрацыі сілы. Хутка вынайшлі прычыну — Дзень Турэцкай Рэспублікі — і правялі контрпарад. Каб парад працягнуць, напачатак др Кучук прайшоў перад фронтам войска, а потым войска прайшло перад др Кучуком і паслом Турцыі. Усё гэта адбываецца ў адным горадзе, а ўвесь Кіпр многа меншы ад нашага ваяводства.

Няпраўда, што ўся гэтая цяганіна пачалася ўчора, а ўсяму вінаваты Макарыяс або туркі. Памыляюцца тыя, якія цвердзяць, што праз 400 год квітнела на Кіпры згода і толькі пасля адыходу англійскіх каланізатараў грэкі і туркі кінуліся сабе да вачэй. Грэкі і туркі былі суседзямі, але не сябрамі. Таму англічанам так лёгка ўдалося пасварыць іх. Праз усе вякі абодва народы і іх рэлігіі не сябравалі з сабою. Нават у найменшай вёсцы заўсёды былі дзве кавярні — грэчаская і турэцкая. Асобныя банкі, кабакі, крамы. Грэкі і туркі размаўлялі паміж сабою па-англійску. Не было мешаных сем'яў. На працягу сто год англійскага ўладання на Кіпры было спакойна, але не было дружбы. Не маглі страляць адзін да другога, бо за зброю англічане вешалі.

Усё заварушылася, калі Кіпр стаў незалежным.

Па праўдзе кажучы, стралянина пачалася не за тыя ці іншыя канстытуцыйныя правы адной ці другой нацыі. Грэкі і туркі страляюць адзін да другога за стагоддзі войнаў і няволі, за атаманскую імперыю, за абарону хрысціянства, за барацьбу супроць немцаў, у час якой туркі не памаглі, за багатае жыццё грэкаў і беднату туркаў, за пагромы грэкаў, за тое, што туркі не змагаліся супроць англічан за незалежнасць Кіпра — страляюць адзін да другога за згвалчаную сястру ці дачку, за рабункі і т. п.

Калісьці грэкі і туркі прынамсі віталіся. Сёння нават не лаюцца — толькі страляюць. Няма той сілы, якая прымусіць грэка пайсці ў турэцкі квартал горада, і наадварот. Баяцца. Загранічныя паслы ходзяць пехатою, бо грэчаскі шафёр за нішто ў свеце, «не паедзе туды». Ноччу ў турэцкім квартале горада цемната. — «Каб грэкам цяжэй было страляць да нас», — кажуць туркі. Туркі вельмі хочуць быць мучаннікамі, ёсць іх у чатыры разоў менш, чым грэкаў. Не надта ведаюць, якую павінны зайграць ролю.

Турэцкія кварталы горада падобныя да гетаў — малыя, бедныя і адусюль акружаныя грэкамі. Аднак, няпраўда, што Макарыяс трымае туркаў у гетах. Наадварот, Макарыяс не хоча бачыць іх у ролі мучаннікаў. Ён хоча, каб яны вярнуліся ў свае дамы, дзе жылі — хоча згоды.

Пакінутыя туркамі дамы і руіны грэкі адбудоўваюць сваім коштам. Аднак туркі баяцца пакідаць сваё гета, якое самыя сабе ўстанавілі. Баяцца грэкаў і сваіх правадыроў, якія ўзамен за выхад з гет хочуць дабіцца ад Макарыяса як найбольшых уступак. Аднак не дастаюць іх. — Калі маюць да нас давер — вернуцца, а калі не — пачакаем, — сказаў адзін грэчаскі палітык.

Усё гэта адбываецца на малым востраве, які мае тры з палавінай тысяч год гісторыі, ва ўсходнім басейне Міжземнага мора, дзе праўдападобна пачыналася наша цывілізацыя. Ды што гэта за цывілізацыя, калі людзі не ўмеюць абысціся без вінтовак? Даволі, каб адзін дурань выстраліў, а дзесяць мудрацоў не ўмее выняць кулі. (а-ся)

## АПЕКА НАД ЗАБОЙЦАМІ

Заходненямецкі ўрад пастанавіў, што пасля 9 мая 1965 года злачынствы гітлераўцаў будуць прызнаны даўнымі і суды не будуць іх судзіць. Адначасова міністэрства справядлівасці апублікавала дакумент, паводле якога вынікае, што да гэтага часу заходненямецкія суды засудзілі 5 445 гітлераўскіх злачынцаў. Прытым, было спынена следства за ваенныя злачынствы супроць 25 тысяч гітлераўцаў. Толькі 76 асоб засуджана на самую высокую кару — пажыццёвае зняволенне. У сувязі з гэтым заходнеберлінскі «Тэлеграф» так піша:

— Як гэта сталася, што на працягу ўсяго некалькіх год вынішчана мільёны людзей... а вінаватых у гэтым злачынцаў знойдзена раптам... аж 76?

Нічога дзіўнага, у Заходняй Германіі ўсякае бывае... (а-ся)

## Нікатын свінням

Канадскія жывёлагадоўцы дадаюць да корму свіней нікатын. Пераканаліся, што нікатын спрыяе прыросту мяса замест саланіны. Можна адкарміць свінню, якая будзе мець многа мяса і мала тлушчу.

Як ёсць у сапраўднасці — невядома. У гэтай справе апошняе слова за спецыялістамі. Але для барацьбы супроць заўзятых курцоў можна скласці смешны вершык:

Толькі тлустыя свінні
Добра чуюцца пры нікатыне!

(а-ся)

## Выбраны бацька

Югаслаўскі сейм — Скупшчына — не зацвердзіў праекта міністэрства ўнутраных спраў, каб у пашпартах перад імем і прозвішчам упісваць першыя літары імён бацькі і маці. Палічана, што гэта было б праявай дыскрымінацыі няшлюбных дзяцей, якія найчасцей не ведаюць імя свайго бацькі.

Аднак трэба было вырашыць пытанне, як адрозніць тыя асобы, якія маюць аднолькавыя імёны і прозвішчы. Напрыклад, у адным толькі Белградзе налічваецца 10 тысяч жанчын, якія завуцца Радміла Яванові̇ч. Была вынайдзена кампрамісная развязка: няшлюбныя дзеці могуць упісаць у пашпарт любую літару як ініцыял імя бацькі. (а-ся)

## УСЯЛЯК МІЛА

**Што край то звычай: у Злучаных Штатах Амерыкі дзеці атрымоўваюць падарункі толькі рашицай і ў панчохах. (ся)**






**Набліжалася да канца апошняя ваенная зіма. Нашы войскі з баямі прабіваліся да Берліна, а тут, у глыбокім тыле савецкіх войск, заставаўся гэты мяшок, набіты гітлераўскімі дывізіямі, і ўжо даўно тут ішлі ўпартыя баі. Бесздольныя, добра ўзброеныя гітлераўскія дывізіі, трапіўшы ў акружэнне, праяўлялі вялікую стойкасць і ваеннае майстэрства. На пачатку ім вельмі памагала і тое становішча, што ў іх карыстанні былі порт і адкрыты марскі шлях у Германію, — яны бесперабойна атрымлівалі ўзбраенне.**

**І ўсё ж вузел паступова сцягваўся і становішча акружаючых рабілася ўсё горшым і горшым. Пераставалі прыходзіць транспарты з Германіі — гітлераўскай стаўцы было ўжо не да гэтых акружаных дывізій. Аб контрнаступленні з мяшка нямецкае камандаванне больш не думала. У яго з'явіліся зусім іншыя клопаты.**

**...Адлігавай сакавіцкай ноччу салдаты разведроты капітана Дзяменцява, вярнуўшыся з начнога рэйда, прывалаклі гітлераўскага афіцэра. Ён аказаўся штабным капітанам з прыгожым прозвішчам Эдэльвайс.**

**Разбудзілі Дзяменцява. Спрасонку хістаючыся, ён ішоў у домік штаба і са злосцю думаў, што яму давядзецца цяпер дапытваць яшчэ аднаго гістэрыка: Пытанне толькі ў тым, якая гістэрыя ў гэтага: «Хайль Гітлер» ці «Гітлер капут»? Дзяменцява аднолькава злавалі і тыя і іншыя, ён не верыў ні тым, ні іншым.**

**Нямецкі афіцэр спакойна, але з цікавасцю разглядваў Дзяменцява, пакуль той знаёміўся з адабранымі ў палоннага дакументамі. Прагледжваючы іх, Дзяменцяў задаў немцу некалькі пытанняў, і яго ўжо ў гэтыя першыя мінуты допыта здзівіла, як спакойна аднёсся гітлеравец да свайго палонення. Трымаўся ён зусім свабодна, ахвотна адказваў на пытанні.**

**— Пры якіх абставінах вы ўзяты ў палон?**

**Капітан Дзяменцяў заўсёды любіў задаваць гэта пытанне. Адказ палоннага было цікава параўнаць з тым, што ўжо было вядома з рапарта разведчыкаў.**

**— Пры самых звычайных... — Немец сумна ўсміхнуўся. — Я вяртаўся з перадавых пазіцый, у маім матацыкле заглох матор. Я разабраў карбюратар, а сабраць яго мне перашкодзілі вашы салдаты. Вось і ўсё...**

**— Відаць, вайна ў тым і складаецца, — усміхнуўся Дзяменцяў, — што салдаты абоіх бакоў перашкаджаюць адзін другому жыць. Але згодзіцеся, што мае салдаты для вас выбралі перашкоду не найцяжэйшую.**

**— О так! — Немец засмяяўся, але тут жа ўсмешка зляцела з яго твару. — Але, відавочна, гэта найцяжэйшая перашкода чакае мяне цяпер?**

**Па напружаным позірку немца Дзяменцяў зразумеў, што ён пытае сур'ёзна.**

**— У нас палонных не расстрэльваюць.**

**— О так! Іх вешаюць.**

**— Гэта залежыць ад размеру вашага злачынства перад нашым народам, — строга сказаў Дзяменцяў.**

**— Але, гавораць, найстрашнейшым злачынствам у вас лічыцца прыналежнасць да партыі Гітлера. Ці не так? А я якраз перакананы нацыянал-сацыяліст. З тысячу дзевяцьсот сёмага года.**

**— Перакананы? — Дзяменцяў паглядзеў у вочы немцу. — Перакананыя выглядаюць не так і не так паводзяць сябе.**

**— Штохвіліны крычаць: «Хайль фюрэр!»?**

**— Або «Гітлер капут».**

**Немец засмяяўся. Разам з ім смяяўся і Дзяменцяў.**

**— Вы не пазбаўлены дасціпнасці, — сказаў немец. — Дарэчы, вы гаворыце па-нямецку, як сапраўдны берлінец. Адкуль гэта ў вас?**

**— Мой бацька шмат год працаваў у савецкім гандлёвым прадстаўніцтве ў Германіі. Я вырас у Берліне.**

**— Берлінскі акцэнт, як след воспы, вытравіць нельга. — Немец памаўчаў, затым дапытліва паглядзеў на Дзяменцява: — Прыемна, капітан, выйграваць вайну? Такую вайну!**

**— Вельмі! — шчыра сказаў Дзяменцяў.**

**— Веру, веру... — сумна сказаў немец. — Мы ж гэта таксама перажывалі і...**

**— Праўда, крыху заўчасна, — бязлітасна заўважыў Дзяменцяў.**

**У вачах у немца бліснуў і тут жа пагас злосны агеньчык. Ён апусціў галаву, плечы яго абмяклі, і ён ціха сказаў:**

**— Так, сорак пяты год — гэта не сорак першы.**

**І як толькі ён гэта сказаў, Дзяменцяву быццам ударыла ў твар страшным агнём сорак першага года. Ён быстра спытаў:**

**— Дзе былі ў сорак першым?**

**Ад зусім новага, сухога і злоснага дзяменцяўскага голасу немец адразу падцягнуўся. Ён, відавочна, зразумеў ход думак савецкага афіцэра і адказаў дакладна, па-ваеннаму:**

**— Брэст — Мінск — Смаленск — Вязьма. Тут зімаваў... — Немец памаўчаў і дадаў:**

**— У тую зіму і адбылося крушэнне пераможных**

 

# Гумар і сатыра

Кастусь Кірэенка

## ПАРТРЭТ БЮРАКРАТА

Аднаго ўздувае пыха,
Самы важны ён! —
Так і ўзвёў бы — вось жа ліха! —
Сам сябе на трон.

У другога — не з адвагі
Трусіцца шчака, —
Аж пацее ад павагі
Да на-ча-льні-ка.

Трэці — рыцар зводкі, зверкі,
Майстра справаздач,
Як зашыецца ў паперкі, —
Жонка — хоць заплач.

А чацвёрты — прайдзісветам
Курс трымае ў свет...
Вось чатыры вам партрэты...
Ці адзін партрэт?

Тут няма ніякай тайны,
Падказаць вам рад:
Гэта ўсё — адзін звычайны
Злосны бюракрат!

## НЕ РАЗУМЕЕ

Заўзяты балельшчык сядзіць пры тэлевізары і сочыць за баксёрскім матчам. Прыходзіць жонка і кажа:

— Не разумею, чаму так цешышся, што гэты пабіты баксёр твой асабісты знаёмы?

— Не здзіўляйцеся, ён цэлу ноч быў пад газам.

— На здароўе!

## ВЫТЛУМАЧЭННЕ

Малы француз пытае ў бацькі, які гутарыць са знаёмымі аб славутых працэсах:

— Тата, што гэта судзейскі калектыў?

— Гэта група людзей, якая вырашае, які з бакоў мае лепшага адваката.

Без слоў.

# УСЯЧЫНА

З Новым годам!

## ДЛЯ ЖАНЧЫН

Парыжскі дыктатар жаночай моды Жак Эстэр прапануе жанчынам, каб стрыглі галавы на «0» машынкай да валос. Гаворыць ён, што валасы ў жанчын з'яўляюцца перашкодай для яе натуральнай прыгажосці.

## АКЕНЦА ДУМАК

**Кожны чалавек пераходзіць тры маладосці: маладосць цела, маладосць сэрца і маладосць думак. Няшчасце ў тым, што ніколі яны не зыходзяцца ў часе.**

**ФЕНЕОН**

## Смяюцца з нас

Яго насілі на руках, што потым ён ужо на нагах не трымаўся.

## ЦЯЖКАСЦІ

Маці трынаццацігадовага сына да мужа:

— Ці правёў ты ўжо з Янкам гэту ўсведамляючую гутарку?

— Так, я намагаўся накіраваць гутарку на кветкі і пчолкі, але...

— Што але?

— Ён увесь час вяртаўся да дзяўчат.

## НАВАГОДНЯЯ ГУТАРКА

Хатнюю цемру як бы шпількай праколваў тонкі месячны прамень які пранырнуў праз сучок у аканіцы і ўпёрся ў падлогу, як бы шукаючы другога сучка, каб уцячы.

Нечакана пацягнула па нагах холадам і рыпнулі дзверы.

— Вам чаго трэба? — кідаю пытанне ў цемень.

— Нічагусенькі, зайшоў пагрэцца, — пачуў я адказ.

— Дазвольце спытаць, вы службовы чалавек ці звычайны?

— Напалову, — азваўся госць. Тым часам, за акном пачуліся свісты і беганіна.

— Мяне ловяць, — сказаў госць.

— Мо' вы злодзей або...

— Смешна чуць гэта, — абарваў мяне госць і сказаў:

— Я дзед Мароз.

— Вельмі прыемна пазнаёміцца, я всёь думаў, чаго пажадаць людзям на Новы год?

— Суседу пажадай: будзь пранyраю ды не задзіраю.

— Слаба.

— Тады пажадай: блізкі сусед лепшы далёкай радні.

— Баюся...

— Чаго баішся, можаш пажадаць, напрыклад, дзячам, начальнікам нават так: адзін рубае, сямёх кулакамі махае.

— Справядліва! Давай, Марозік, яшчэ!

— Грамадскія рады адмаўляюцца купляць школам кніжкі, а ты ім падкажы:

Хоць кожная Рада
Падказам не рада,
Ды школьныя кнігі
Уручай без інтрыгі.

— Гэасам напісаць:

Усім адзін куплет:
Без гарэлкі — не буфет.

— А што напісаць пэкаэсам?

— Пішы:

Як пра зіму не забудзеш,
Цішэй едзеш — далей будзеш.

— Гастраноміі напішы:

Сем бед — адзін абед.

— Здорава, разумею ў чым справа...

Дзед Мароз выцягнуў з валёнка голую нагу і прысаліў:

Нас, каханы эмхадэт,
Вучыць [illegible] хадзіць без шкарпэт.

— Ну, я іду, а то мой начальнік св. Мікалай, чаго добрага, звольніць мяне з пасады дзеда Мароза.

Дзед Мароз ветліва пакланіўся і вышаў з хаты.

— Бывайце здаровы, жывіце багата і шчасліва дыбайце.

Дзядзька Лявон

## АБЕД

— Мілая, сёння на абед прыдуць да нас госці.

— Добра. Скажы мне толькі, ці абед мае быць звычайны, ці такі, каб прыйшлі да нас яшчэ раз?

## Думкі весела апалоніка

**Кожны мудрэц вучыўся свае мудрасці ад самага пачатку.**

*

**Ёсць людзі, якія маюць брудныя рукі і чыстыя сэрцы, але бывае і наадварот.**

*

**Парадоксаў не трэба шукаць, яны пры кожнай аказіі самі вылазяць.**

*

**Раней людзі выбіралі школы, а сёння школы пачалі выбіраць людзей.**

*

**Хто хлусіць, той не верыць, што ёсць яшчэ на свеце праўда.**

Калі тата забывае купіць ёлку.

## Песні па заяўках

Па просьбе Раісы Петрушкевіч, Марыі Кічкайла з Масева 1, Гайнаўскага павета, і Лідзіі Мушкатэль з Вэрполя, Сямяціцкага павета, змяшчаем беларускія частушкі

## ЧАСТУШКІ

У садочку на галіне
Груша спелая вісіць,
Падарыў мне мілы сэрца,
Я не знаю, дзе насіць.

Ўчора цэлы вечарочак
З мілым цалавалася,
А праводзіла ў салдаты,
Сэрца разрывалася.

Ой, дзяўчаткі, я надаўна
З хлопцам падружылася,
Цалаваў на развітанні,
Галава кружылася.

Расцвітае вішня цветам
Каля хаты на дварэ,
Мілы кажа, што кахае,
Толькі замуж не бярэ.

Лёгка гладкаю дарогай
Ды машына коціцца.
Добра замужам падружцы,
І мне замуж хочацца.

Мяне мілы мой не любіць,
Толькі сэрца маё губіць,
Ходзіць, ходзіць ён са мной,
А цалуецца з другой.

Ой, дзяўчына, не той любіць,
Хто ў любві клянецца,
А той любіць, хто з табою
Век не расстанецца.

Ўчора мілага чакала,
Ды не дачакалася,
Ночку цэлую не спала,
Сэрца надрывалася.

Па садочку вецер вее,
Вішанька калышацца,
Ой, не вер, дзяўчына, хлопцу,
Покуль не запішацца.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wilcza 46, Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA. Nakład 5458. Białk L-1

 